Цана асобнага нумару 20 грош.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

# НАШ КЛІЧ

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Чацьвер, 1-га красавіка 1926 г.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Беларуская кнігарня

**Беларускага Выдавецкага Таварыства**

(Вострабрамская № 1, рог Гэтманскай)

гэтым паведамляе ўсіх заінтэрэсаваных асобаў, якія пасылалі грошы на кнігі ў часе таннае прадажы на стары адрас Кнігарні (Завальная 7), ды дагэтуль кніг не атрымалі, — што прычынай неакуратнасьці зьявілася перад усім тое, што **частка пісем, у якіх паведамлялася, на якія кнігі высланы паштовым пераказам грошы, ня была дастаўлена поштай**, аб чым Кнігарня ў свой час абвяшчала ў газэтах. З другога боку, пераезд Кнігарні ў новае памяшчэньне ня даў магчымасьці ўраз жа выпаўніць тыя заказы, на якія ўрэшце прыйшлі новыя паведамленьні.

Цяпер усе заляжаўшыяся з вышэйсказаных прычын заказы выпаўняюцца і будуць закончаны ў найбліжэйшыя дні.

Кнігарня перапрашае тых паважаных закашчыкаў, якія з незалежных ад Кнігарні прычын не атрымалі ў свой час выпісаных кніжак.



## Вёска прамовіла.

Прыблізна ад новага году беларускае грамадзянства было сьведкай палемікі, якая ўзгарэлася паміж радыкальным беларускім органам „Беларуская Ніва" і новапаўстаўшай газэтай паслоў Ярэміча і Рагулі „Сялянская Ніва". Палеміка гэтая мае вялікае прынцыповае і практычнае значэньне: галоўны пункт спрэчкі—пытаньне аб тым, па якім шляху павінны йсьці беларусы ў сваім імкненьні да нацыянальнага, палітычнага і сацыяльнага вызваленьня.

„Беларуская Ніва" бачыла шлях да вызваленьня толькі ў супольнай барацьбе ўсіх працоўных места і вёскі з пануючай чужацкай буржуазіяй. „Сялянская Ніва", наадварот, хоча, каб беларускае сялянства адцуралася ад сваіх натуральных саюзьнікаў—працоўных места, каб вытварыла нейкую асобную „сялянскую" ідэалёгію, непадобную да ідэалёгіі ўсіх іншых працоўных, каб рупілася выключна аб свае вузка панятыя вясковыя інтарэсы і апіралася выключна на свае ўласныя слабыя сілы.....

Як-жа аднеслася да гэтае палемікі вёска?

У цэлым радзе карэспандэнцыяў, друкаваных у „Беларускай Ніве", выявіўся ў поўнай меры пагляд на гэту справу нашае вёскі. Вёска ніяк ня можа зразумець мэты дзяленьня сялян і работнікаў. Вёска куды лепш, чым паны Ярэміч і Рагуля, адчувае тую неразрыўную сувязь, якая істнуе паміж селянінам-хлебаробам і ягоным *родным братам*, які—з прычыны малазямельля—пайшоў служыць у места—ў фабрыцы, на чыгунцы і г. д. Там, у месьце, дзе працоўныя згуртаваны ў адным мейсцы ў многатысячнай грамадзе, яны прадстаўляюць запраўды-ж паважную арганізаваную сілу, з якой мусіць лічыцца і фабрыкант-капіталіст, і дзяржаўная ўлада. Там, у месьце, йдзе запраўднае змаганьне за волю для ўсіх працоўных, бо брат-работнік ведае, што ён нічога ні для сябе, ні для брата-селяніна не здабудзе, калі ворагі працоўных здолеюць падняць вяскоўцаў проці работнікаў, калі ў вёсцы будзе камандаваць пан-абшарнік. — І ўсё гэта наша вёска ўжо разумее дужа добра.

Але найлепш выявіўся пагляд беларускае вёскі на гэтае прынцыповае пытаньне: па якім шляху і з кім ёйісьці? — у тэй сустрэчы, якая адбылася 24 сакавіка паміж панамі Ярэмічам і Рагуляй і сялянамі. Мы гаворым аб зьезьдзе „Сялянскага Саюзу", справаздачу з якога падаем ніжэй. Ніякія хітрыя тлумачэньні названых паслоў аб тым, што, бач, сяляне прадстаўляюць „асобную клясу", дык і мусяцьісьці асобным ад работнікаў шляхам, не маглі пераканаць сялян у патрэбе аддзяленьня сялянскага руху ад руху ўсіх другіх працоўных. Сяляне цьвёрда стаялі на сваім, сяляне казалі, што мы мусім ня толькі шукаць для сябе падтрыманьня ў месьце, але і ў свой чарод падтрымліваць дамаганьні работнікаў: бо толькі такая *ўзаемная дапамога* можа давясьці і нас і іх да поўнае перамогі. І гэтым сваім становішчам сяляне—тыя сяляне, на якіх паны Ярэміч і Рагуля ўжо ўглядаліся, як на „сваіх"!—сяляне аканчальна засудзілі ўсю тую палітычную лінію, якую павялі ініцыятары „Сялянскага Саюзу".

Вёска прамовіла. Прамовіла разважна, разумна і цьвёрда. І гэты голас вёскі—запаведзь таго, што спробы дзяленьня працоўных вёскі і места — скуль бы яны ні выходзілі — абаламуціць нашых сялян ня здолеюць!

## Здабывайма сабе мейсца у самаурадах!

Ад выхаду ў сьвет 1 нумару Нашае Долі да сёньняшняга дня прайшло 20 лет, а сколькі зьменаў прынёс гэны час у справу Адраджэньня Беларускага Народу? „Нашая Доля" істнавала коратка, але зерне яе ўпала на добры, бо родны і свойскі грунт і дала буйныя ўсходы.

З тае ці іншае—як тады казалі — „інтрыгі" Адраджэнская праца стала моцна на ногі, здабываючы **нацыянальную волю і правы** свайму Народу.

Беларусы, як Народ многаміліённы, прызнаны ўсімі, навет найгоршымі нашымі ворагамі, якія цяпер ужо ня маюць настолькі бястыдзтва, каб відзець у вызваляючымся з цемнаты і грамадзкага бязлічча народзе якуюсь „інтрыгу".

Беларусы прызнаны ў дыпляматычных актах, успамінаюцца на міжнародавых конфэрэнцыях. Вялікія нашыя патрыоты, пачынальнікі Адраджэньня Народу, маюць ужо цэлыя рады сваіх заступнікаў, якія не дадуць свайго Народу нанова ў палон тым ці іншым „апякуном".

З году ў год расшыраюцца рады інтэлігенцыі, якая ўжо не адыходзіць ад Народу, але на чале яго здабывае для родных братоў правы і волю.

Аднак, гэная інтэлігенцыя бярэ сваю сілу і моц ад народных гушчаў, чакае падтрыманьня і веры ад беларускіх сялян і рабочых.

Бо ўжо і гэныя слаі народу не зьяўляюцца нейкай бязлікай этнаграфічнай масай: наша **вёска знайшла сябе** і тут—у Заходняй Беларусі—выявіла сваю волю ў 1922-ым годзе, калі гурмам пайшла да выбараў у Сойм і правяла сваіх паслоў.

Аднак, выбары ў Сойм адбываюцца рэдка, раз у пяць гадоў. І ў пэрыяд паміж кожнымі выбарамі ў законадаўчыя ўстановы мусіць ісьці ўсьведамляючая работа сярод яшчэ несьвядомых, а сьвядомыя-ж грамадзяне павінны на кожным кроку свае дзейнасьці праяўляць сябе ў межах, якія даюцца ім істнуючымі законамі.

Маем тут на думцы справу вялікае вагі: **ўчасьця** сьвядомых беларускіх грамадзян **у самаўрадавых установах** — гмінных і гарадзкіх радах і сойміках.

Беларускі Народ, адвечны жыхар на тутэйшых землях, павінен мець уплыў на кожную галіну грамадзкага жыцьця. А ведэма-ж, што гмінныя і гарадзкія рады як-раз выраша́юць так ці інакш уклад гэнага жыцьця.—Ад таго-ж, якія будуць сябры гэных радаў, залежыць матэрыяльнае палажэньне і маральная вартасьць нашых вёсак і мест.

## Зьезд „Сялянскага Саюзу".

24 сакавіка ў Вільні адбыўся перш зьезд новаўтворанае пасламі Ярэмічам і Рагуляй групы—такзванага „Беларускага Сялянскага Саюзу".

На зьезд прыехала з вёсах усяго толькі... 9 (дзевяць) запраўдных сялян. Мястовых—разам з дэпутатамі—было штось каля пятнаццацёх.

Прыезныя сяляне былі памешчаны на начлег у адным месцы—яшчэ з вечара папярэдняга дня. І вось тут—на саломе — гэныя вяскоўцы адбылі перш сваю нараду, водгукі якое выявіліся пры самым жа адкрыцьці зьезду.

Адзін з іх ад агульнага імя заявіў, што сяляне зусім не разумеюць, дзеля чаго арганізатары зьезду так стараюцца аддзяліць сялян ад работнікаў? Сяляне лічаць, што лінія Беларускае Сялянска Работніцкае Грамады — зусім правільная, і просяць заклікаць на зьезд прадстаўнікоў Грамады, каб паразумецца з Грамадой. Паміж іншым, сяляне адзначалі, што вёска наагул настроена шмат больш радыкальна, чым праграма Сялянскага Саюза.

Прапазіцыі гэныя, аднак, былі адкінены несялянскай большасьцяй, да таго-ж некаторыя з сялян, баючыся, што не дастануць грошы на паварот да хаты, калі будуць у рэзкай апазіцыі да склікаўшых зьезд—маўчалі. Усё-ж на дамаганьне сялян у праграму Сялянскага Саюзу арганізатары яго прымушаны былі ўвясьці шмат папра́вак.

Паміж іншым выклікала спрэчкі між сялянамі і пасламі такая справа. Калі было абвешчана, што Саюз будзе дамагацца зямлі бяз выкупу і платы, дык сяляне паднялі пытаньне: а як-жа мае быць у месьце? Ці-ж там фабрыкі і заводы будуць пакінены капіталістам і фабрыкантам?! Тут паны паслы пробавалі растлумачыць, што гэта, бачыце, справа ня нашая, аб гэтым хай думаюць самыя работнікі.... Аднак, такія тлумачэньні нікога не пераканалі, бо-ж і дзіцяці ясна, што, раз капіталісты захаваюць сваю сілу ў мястох, дык як-жа яны дапусьцяць да адабраньня зямлі ад роднае ім зямельнае буржуазіі?!

Становішча сялян шмат расчаравала паноў Ярэміча і Рагулю, дый расчараваліся і прыезныя сяляне. Гэтак, калі пачаліся выбары ўраду, дык—па-за п. п. Ярэмічам і Рагуляй—ніхто з сялян не хацеў балаціравацца ў сябры ўраду. Ледзьве ініцыятары ўгаварылі аднаго з сялян згадзіцца выставіць сваю кандыдатуру.....

Цяжкое ўражаньне на сялян—сьвядомых беларусаў—зрабіла і тое, што адзін з арганізатараў зьезду гаварыў **толькі парасейску**. Вось вам і „нацыянальны" характар новае арганізацыі!.....

---

І калі ў радах гмінаў і гарадаў будуць у большасьці—а ім гэта належыць!—сьвядомыя беларусы, тады нічога не памогуць староставыя „самаўрады" ці камісаравы загады.

У нашыя часы лічацца толькі з сілай, а ці-ж ёсьць большая сіла, чым згоднае аднолькавае перакананьне і думка Народу?

Гэная Думка творыць новае права, ламае аджыўшы парадак палітычны і грамадзкі і арганізуе жыцьцё паводле сваіх ідэалаў.

У гэным кірунку павінна вясьціся работа на мяйсцох—у нашых вёсках, хутарох і гарадох.

А перад усім кожны сьвядомы беларус павінен старацца ўвайсьці ў склад гмінных і мястэчковых радаў, браць удзел у працы гэных установаў і дбаць, каб перад усім у гэнай працы ня было расходжаньня з інтарэсамі і правамі жыхароў.

Трэ ўваходзіць нам у кожную камісію, здабываць уплывы на ход працы самаўрадаў, пазнаваць перад усім гэную працу, а, пазнаўшы, зорка сачыць, ці ня йдуць намарна крывава запрацаваныя грошы беларускіх сялян і рабочых.

Калі-б гэтак вялі сябе ўсе сябры соймікаў і соймікавых камісіяў, не паўтараліся-б зладзействы народнага дабра рознымі Недзялковскімі. А такіх на Беларусі шмат...

Беларуская вёска, здабыўшы сьвядомасьць свае́й нацыянальнасьці, мусіць нарэшце здабыць пачуцьцё свайго грамадзянства і важнасьці палажэньня ў Дзяржаве.

Не паніжаюць, ня крыўдзяць толькі таго, хто ўмее даць адпор тым, што, паміма скасаваньня

лянскі Саюз, якія могуць паслаць у Камітэт па трох прадстаўнікоў.

Адначасна, у сувязі з ліквідацыяй некаторых старых і ўтварэньнем новых беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, зроблены адпаведныя зьмены ў складзе Камітэту.

Сход пастанавіў запрапанаваць прэзыдыуму, каб новае сабраньне сяброў з абноўленымі мандатамі адбылося не пазьней 18 красавіка.

**З канцэрту ў Бел. Гімназіі.** У чацьвер, 25 сакавіка, у Віленскай Беларускай Гімназіі адбыўся канцэрт на карысьць незаможных вучняў.

У праграме былі выступленьні гімназічнага хору і аркестру, ды сьпевы солё. Пяялі: ведамы сьпявака Бэноні, грам. Душэўская і грам. Квецінская.

Імя грам. Бэноні даволі добра ведама музыкальнай Вільні, дык мала што новага аб ім прыдзецца сказаць. Можна толькі пашкадаваць, што артыст даў усяго дзьве песенькі: песьню пра блаху і пра п'янага мельніка, выпаўненыя, як заўсёды, вельмі добра.

Агульную зацікаўленасьць выклікала грам. Ганна Душэўская. Віленскія беларусы памятаюць яе спраз пяцёх гадоў, калі яна пяяла на нашых вечарынах. Вось-жа з таго часу ў голасе грам. Душэўскай зрабілася вялікая перамена: яна колькі гадоў вучылася і распрацоўвала свой голас у Бэрліне пад кіраўніцтвам найлепшых мастакоў, і вынікі гэтага зразу кідаюцца ў вочы. Голас грам. Душэўская вырас, памацнеў і разьвіўся; яна ўладае ім зусім свабодна і ўмела. Дык і песьні, якія яна пяяла на канцэрце, пакінулі па сабе дужа прыемнае ўражаньне. Асабліва цікаўныя былі песьні народныя, хаця, з прычыны спазьненьня акомпаньятаркі, грам. Душэўская пяяла іх бяз роялю.

Наагул, уражаньне ад вечару асталося добрае. Саля была перапоўнена. Паміж прысутнымі—апрача выдатнейшых беларускіх дзеячоў, паслоў і сэнатараў—трэба адзначыць рэктара віленскага Ўнівэрсытэту п. Зьдзеховскага, старшыню Часовага Літоўскага Камітэту д-ра Альсэйку, адваката Міцкевіча і інш.

**Апэляцыйны суд над рэдактарам Мікалаем Шылам.** 30-га сакавіка сёлет. году ў апэляцыйным судзе разглядалася справа рэдактара трох беларускіх газэтаў „Змаганьня“, „Голаса Беларуса“ і „Сына Беларуса“—Мікалая Шылы, засуджанага ў акружным судзе на год катаргі з пазбаўленьнем грамадзкіх правоў.

З прычыны незьяўленьня сьведкі абвінавачаньня п. Шатковскага (бышага паліцыянта, цяпер „зрэдукаванага“)—разгляд справы суд адлажыў.

У абарону п. Мікалая Шылы выступалі п. п. адв. Міцкевіч і адв. Гавэнда.

**Патрэба публічнай беларускай бібліятэкі.** „Студэнцкая Думка“ зварачае ўвагу на тое, што кожны дзень прыносіць запытаньні, дзе можна дастаць — пазычыць тую ці іншую беларускую кніжку. Ясна, што гэта можна задаволіць толькі тады, калі адчынім у Вільні публічную беларускую бібліятэку. Газэта зварачаецца з запытаньнем да тых, ад каго гэта залежыць матэрыяльна і праўна: ці не пара аб гэтым падумаць? Тэхнічных і інтэлектуальных сіл хопіць.

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва гэтым дзякуе за ахвяраваныя музэю ім. Ів. Луцкевіча рэчы грамадзянам: **Альбіну Сенькевічу** з Шалтароўшчыны—за 3 срэбныя манэты, вучню **Паўловічу** і вучню **Ільляшэвічу**—за манэты.

**З жыцьця Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.** Апрача публічных лакцыяў Б.С.С. ладзіць лекцыі ў выключна сваім кружку з мэтаю самаразьвіцьця. Першую гэтакую лекцыю прачытаў 6. XII. 25 г. М. Марцінчык на тэму: „Дзьве душы“,—другую прачытаў 17. I. 26 г. А. Зянюк на тэму: „Крызіс парлямантарызму“.

**Беларускі рэфэрат у Пазнанскім Унівэрсытэце.** 4 сакавіка г. г. былы сябра Б. С. С. студэнт Пазнанскага Унівэрсытэту Станіслаў Грынкевіч прачытаў у гуртку студэнтаў-украінцаў у Пазнанскім Унівэрсытэце рэфэрат на тэму: „Беларускае Студэнства“.

**Вучнёўскі таварыскі суд пры Віл. Бел. Гімн.** Гурток вучнёўскай моладзі Віл. Белар. Гімн. выдзяліў з складу свайго таварыскі суд, які мае вырашаць справы, датычачыя вучняў гімназіі.

Трэба прывітаць імкненьне вучняў да самастойнага грамадзкага жыцьця і вырашэньня і ліквідаваньня сваіх балячак саматугам.

**Новая кніжка.** У Менску вышла з друку новая цікаўная кніжка **Язэпа Лёсіка: Граматыка Беларускае Мовы. Фонэтыка** (Менск, выд. коштам аўтара. 1926 г.). Гэта—зьмест лекцыяў аб беларускай мове, чытаных аўтарам у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску. Працу сваю Лёсік прызначае да ўжытку настаўнікаў, пэдтэхнікумаў і для самаасьветы.

Не ўваходзячы тут у ацэнку працы грам. Лёсіка па сутнасьці, трэба прывітаць зьяўленьне кніжкі, якая імкнецца да навуковага высьвятленьня асаблівасьцяў беларускае мовы, часта і для беларуса ня зусім зразумелых.

**Афіцыяльны курс грошы на 31 сакавіка.** Даляр — 7 зл. 90 гр. Залаты рубель — 4 зл. 05 грошы.

31. III. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,05.



# Запярэчаньне.

Адна з віленскіх беларускіх рэдакцыяў, у сувязі з подлым пасквілем на грам. А. Луцкевіча, зьмешчаным у дэфэнзыўным „Белар. Слове“, атрымала гэткае пісьмо з Прагі ад „апошняга з могіканаў“ беларускае эсэраўшчыны грам. Тамаша Грыба:

„У № 22 (35) часопісі „Беларуская Ніва“ зьмешчана зацемка, што я супрацоўнічаю ў часопісі „Беларускае Слова“ і што я напісаў агідны і брудны пасквіль на беларускага дзеяча Антона Луцкевіча, які цяпер прасьледуецца польскай уладай.

„Вось-жа, дзеля ўстанаўленьня праўды, лічу сваім маральным абавязкам зазначыць:

1) я нічога супольнага ня маю з часопісьсю „Беларускае Слова“ і ніякіх артыкулаў у гэную часопісь не пасылаў;

2) зьмешчаны ў часопісі „Беларускае Слова“ брудны пасквіль на беларускага дзеяча А. Луцкевіча, у якім гаворыцца, што ён пры дапамозе польскае дэфэнзывы ў 1920 годзе засаджваў у польскі вастрог беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (Я. Мамоньку, П. Бадунову і Т. Грыба), лічу **злоснай правакацыяй**;

3) рашуча пратэстую супроць тых амаральных спосабаў змаганьня з сваімі ідэйнымі праціўнікамі, якія ўжываюцца беларускай прэсай у Вільні“.

Прага, 20 сакавіка 1926 г.

(—) **Тамаш Грыб.**

Як ведама, рэдакцыя „Белар. Нівы“ абвінавачывала самога-ж гр. Грыба, што ён — аўтар гэнага пасквілю і „злоснае правакацыі“.

Друкуючы зьмест пісьма гр. Грыба, гожа адзначыць, што ён, аднак, трохі разыходзіцца з праўдай, выракаючыся супольнасьці з дэфэнзыўнай газэтай „Белар. Слова“. Бо-ж мы вельмі добра памятаем, як у тэй-жа газэце да зьмены яе назову (б. „Грамадзкі Голас“) за часоў „урадаваньня“ ў ёй Валэйшы ў **паштовай скрынцы зьмяшчаліся адказы п. Грыбу на яго пісьмы да рэдакцыі гэнае газэты.** А за „ўрадаваньня“ Паўлюкевіча там-жа друкаваліся (!) апавяшчэньні „партыі беларускіх эсэраў“ **з подпісам... самога ж п. Грыба!..**

Дый трудна паверыць, каб рэдакцыя паважнае часопісі, як „Беларуская Ніва“, кінула грам. Грыбу гэткі цяжкі закід, ня маючы доказаў!..

# Неугамонныя.

Узьвейціся, сакалы, зладзеямі! Шульгін. 1920 г.

У нядзелю 21./III. 1926 г. ў будынку гімназіі Вэлера адбылося сабраньне „Истинно-русских людей“ дазволам польскага ўраду ад 12./III. 1926 г. за № 11138). Гэтых „истинно-русскіх людзей“ прашу ня зьмешываць з „блажэннай памяци“ Саюзам Архангела Міхаіла,—хаця хто з іх гарэй, ня ведама?..

Першую скрыпку на гэтым сабраньні йграў пан Зубков, мянуючы сябе палкоўнікам. (Злыя языкі пацьвярджаюць, што якобы п. Зубков не палкоўнік, а толькі жандарскі вахмістр, і ходзяць чуткі, што і ў Польшчы займаецца гэтай дастойнай прафэсіяй. Пацьвярджаць не бяруся... Хаця?).

Першы гаварыў нейкі п. Семёнов, прыехаўшы з Варшавы... Я чуў увесь час набор пекных фразаў аб асвабаджэньні (каго?... ні то Расеі, ні то п. Семёнова, ні то яшчэ некага іншага?), аб доўгу, аб жэртве, аб барацьбе да апошняй каплі (чужой — ня інакш) крыві. Амаль кожная фраза нязьменна канчалася словам „Единый вождь“. З гэтых фразаў можна было зрабіць заключэньне, што на чале „истинно русских людей“ стане нейкі „единый вождь“ і... справа ў капялюшы! Ізноў па Неўскаму паскачаць Штандарт і адчыніцца Кюба і Пажэскі корпус, у Маскве загрымяць сараксаракоў і „вастаржэствуець“ парасё пад хрэнам расьцеганае ў сьмятане. У заключэньні п. Семёнов для атуманеньня прастакоў кінуў фразу, што пытаньне аб тым, які лад мае быць у „будучай“ Расеі: рэспубліка, ці манархія?—будзе вырашана па заваяваньні Расеі.

Мне здаецца, што ня варта так палітычна наіўнічаць слонападобнаму п. Семёнаву. Калі на чале становіцца „блюститель престола“ — адзін з дынастыі Готторп (бо-ж дынастыя Раманавых пасьля сьмерці Елізаветы Пятроўны ад 1761 года аканчальна вымерла!), дык які-ж яшчэ можа быць разгавор аб уладзе? Калі на гэтым зьвярнулі сабе шыю: Деникін, Юденіч, Врангель і т. д., то і вы, п. Семёнов, зьвернеце на гэтым шыю, разам з вашым „вождем“, выжыўшым з розуму старыком. Гэткая доля ўсіх „спасацеляў“!..

Сьледам за п. Семёновым выступіў п. „палкоўнік“ Зубков, пачаўшы ад казкі аб віцязі на распуцьці трох дарог (я ўспомніў віленскую казку аб адным „палкоўніку“, што таксама стаіць на распуцьці трох дарог: у 1919 г. адна прывяла яго ў літоўскую ахран-

# Фэльетон, або маленькая показка.

Я бедны Сьцяпан, маю Макаравае шчасьце, бо на мяне, як на беднага Макара, усе шышкі валяцца. Дык вось, паслухайце як гэта было!..

— У нядзельку пайшоў я да свайго сталічнага мястэчка (сталічнага таму, што там — усе ўстановы першай інстанцыі), каб атрымаць газэту і памаліцца ў царкве Богу; але, на няшчасьце, забыўся ўзяць дакумэнты, бо, адзяваўшы сьвяточную бравэрку, забыўся выняць іх з будзённай.

Іду сабе я вуліцаю мястэчка ў напрамку да царквы, а другім бокам вуліцы йдзе паліцэйскі. Штосьці прыглядаецца ён да мяне, а пасьля выходзіць мне наперад і, як на грэх, пытаецца дакумэнты.

Лап-цап я па кішэні,—чорт іх мае.

Кажу, няма,—забыў ў дома.

У рэзультаце—пастарунак: „badanie“, „dochodzenie“, „sprawdzenie“...

Потым, выходжу з пастарунку, але дзень кончыўся, іду дамоў.

---

У другую нядзельку ўжо добра знаю, што ня можна разлучацца з дакумэнтамі — дзяржу іх у самым блізкім кішані і, сют-тут, як-бы ня веручы сам сабе, мацаю іх ці ёсьць, ці часам ізноў не забыўся ў дома.

Як на грэх, спаткаўся добры мой знаёмы Васіль. Вышаўшы з царквы,—кажа,—пойдзем зробім „паўлітроўку“... Пашлі, зрабілі і выходзім... Паліцэйскі тут як тут...

— Што, гарэлку пілі?!. Кажу—не!.,

— Як, яшчэ будзеце маніць?!

Урэзультаце—пастарунак і пратакол. 12 я гадзіна ночы—іду дамоў і... чакаю кары.

---

Аднойчы паехаў я на кірмаш (усё ў тое самае мястэчка). Натоўп народу ў растаўрацыі... Кажа, прыяцель Самусь: вось маю чарку, дык пойдзем вып'ем на вазе—я згаджаюся. Пашлі і выпіваем... Ідзе паліцэйскі...

— Што робіце,—пытае?

— Ці ж пан ня бачыць!—кажам.

— На рынку ня можна!.. Урэзультаце—пастарунак і пратакол... Ізноў чакаю кары.

---

У другі раз ізноў еду на кірмаш... Еду і думаю: ну, цяпер дык я здаецца ўжо навучыўся. Знаю як, — ды што можна, а чаго нельга рабіць у мястэчку, Але разам з гэтаю супакаіваючаю думкаю — паўстае нешта трывожнае.

Уяжджаю ў мястэчка... ажно бачу, паліцэйскі, штосьці прыглядаецца да вазоў...

Пад'яжджаю я... Стой!.. Дзе дошчачка?

Вось табе,—думаю,—папаў.

— Пане,—кажу, — забыўся дошчачку ў дома, бо ўчора езьдзіў у лес па дровы, дык адвязаў, каб часам ня згубіць у лесе, а сёньня—вышла з галавы прывязаць... Нічога... запісаў і кажа: зайдзі на пастарунак!..

---

Прыехаў я на рынак, аблюбаваў сабе месьцячка..· стаў і выпрагаю каня... Ажно йдзе паліцэйскі (ня той, але ўжо другі), угладзіўшы мяне і кажа: трэба ў парадак станавіцца!.. Дай пан спокуй,—агрызнуўся я. З-за вас, дык на'т дыхнуць вольна нельга ў гэтым мястэчку!.. Як,—кажа,—будзеш яшчэ пярэчыць!.. Ідзі на пастарунак! А там? пратакол і зноў—чакай кары.

---

На другі дзень па кірмашы: еду я ў лес па дровы, ды ведаючы, што бяз дошчачкі езьдзіць нельга, бяру ды прывязваю дошчачку да ваза. Ажно, варочаючыся дамоў, ужо ў вёсцы блізка сваей хаты, сустракаецца паліцэйскі патруль.

Зірк-зірк то на мяне, то на воз—адзін паліцэйскі кажа. Ці маеш квіт на дровы? А другі, пытаецца—Чаму няма дошчачкі? Адказваю: квіта няма, бо на месцы ў лесе заплаціў грошы за дровы, а дошчачкі, калі няма, дык мусіць адарвалася ў лесе.

— Ну, вязі,—кажуць,—дровы да старосты. Нічога не парадзіш—слухаю і вязу. А там?.. пратакол не адзін, а зразу два. На дровы,—кажуць,—трэба дастаць квіт, тады аддамо, а пакуль што, няхай яны застануцца ў старосты.

На другі дзень іду да лясьніка і разказваю яму сваё здарэньне і прашу яго выдаць мне квіт у тым, што я купіў учора дровы. Але дзе там!.. Ці ж я магу памятаць каму адпушчаны дровы,—кажа лясьнік. І квіта ня выдаў.

Прапалі дровы і кару плаці.

---

Пасьля ўсяго гэтага наш вясковы стараста не забываў мяне, часьценька прыносіў ён „наказы“ карныя за гэтыя „вялікія“ праступкі. Адзін раз сказаў мне сэквэстратар, што ў нашай Рэчыпаспалітай ёсьць аж 101 гэткі грэх, які можа быць учынены кожным грамадзянінам прыпадкова, паміма яго добрай волі.

Дык вось, я ўжо паказаў іх сем, а калі чытачы газэты пажадаюць, дык апішу й рэшту іх.

**Сьцяпан Макаравага шчасьця.**

В. Лаўрыновічы, Ваўкавыскага пав.

ку, другая ў 1921 г. ў польскую, а трэцяя ў французскі штаб па вярбоўцы шпіёнаў на тэрыторыі СССР). П. Зубков у сваей прамове мімаходам закрануў ні ў чым не правініўшуюся перад ім, „неўважаемую, як ён выразіўся, „бабушку русской революции“ Брэшкоўскую, ды далей перайшоў да гістарычных выкрыкаў: „біць! ратаваць! зьнішчыць жыдоўшчыну! жыдоў!“ і г. д. (Сьцеражыцесь, бедныя жыды, Зубков на вас загневаўся!).

Характэрны мамэнт быў у часе пагромнай прамовы Зубкова. Да яго падышоў былы дэфэнзыўшчык Пешка і задаў нейкае пытаньне; у адказ Зубков моцным голасам запытаўся ў яго: „Вы не з паліцыі?“ Пешка, скампраметаваны, нічога не адказаў. (Я ведаю добра, што яны між сабой знаёмы, значыць... свой свайго не пазнаў!).

Першая частка, так сказаць: галоўная—закончылась тым, што нейкі „ўнушыцельнай камплекцыі“ грамадзянін (прозьвішча яго ня ведаю), дастаўшы недзе цьвек і малаток, узьлез з лёгкасьцю маладога слана на крэсла, убіў у сьцяну цьвек гэты і павесіў на яго абраз, заклікаючы ўсіх „по истинно-русскому обычаю“ памаліцца перад пачаткам. Эфэкт ад гэтага стаўся не такі, на які спадзяваліся „истинно-русския“. Малітву запялі пісклівымі галасамі толькі некалькі баб-гістэрычак...

Пачалася назначэньне кандыдатаў на зьезд манархістаў у Парыжы. Спачатку адзін з „сваіх“ назваў Зубкова (відавочна яму вельмі хочацца папасьці ў Парыж!). Пасьля п. „палкоўнік“ Зубков называў другіх годных яму кандыдатаў. Гэтым спосабам аказаліcь намечанымі: Зубков, Стрекалов, Чупаев, Попов, Жыволов, Скулішевскі, Андреев, Берцяев, Яковлев, Гофман і Ермаков.

Ня вытрымаўшы да канца правакацыйнай атмасфэры, я выйшаў з сабраньня, выносячы ўверанасьць, што дэлегатам будзе Зубков.

Вы, „спасацелі“ ўласных інтарэсаў, дарма думаеце аб тым, што расейскі селянін і работнік, раз выплюнуўшы вас з крывёю, прымуць вас назад. Вы — скула на целе шмат-пакутнага расейскага народу. Бацькаўшчына для вас—гэта Расея, населеная іншаверцамі і рабамі. Цар — зямны бог у вайсковым мундзіры; вайсковыя—гэта людзі з другой плянэты, якім усё можна. Штацкія—гэта паўлюдзі. Грамадзянін па пашпарту павінен быць праваслаўным, павінен ненавідзець інаверцаў і інародцаў, павінен тры разы ў дзень чытаць малітву за цара, хадзіць у царкву і быць у царскія дні на парадах. Патрыятызм павашаму: слухай начальства, пяі „Боже царя храни“, душы інаверца і інародца, вешай „унутранага ворага“, душы рабочых і сялян. Як-бы вы не стараліся, але вы асуджаны на самае быстрае выміраньне на задворках Эўропы, (калі пчолы перастаюць карміць трутняў, дык апошнія ўміраюць!), і—чым хутчэй, тым ляпей! Магчыма, што вам удасцца на „ура“ — без надзеі на ўсьпех — паднясь за сабой горстачку выбітых з каляіны людзей, бязхатніх, або эмігрантаў; усё ж-такі я ўвераны, што разумныя, чэсныя і навет патрыёты ня пойдуць вам дабываць узноў вашыя маёнткі!..

Чым хутчэй вы зьвядзецеся, тым лепш для Расейцаў і для нас Беларусаў. Гэтая заметка і напісана якраз у адказ аднаму з віленскіх манархістаў, каторы мне на сабраньні сказаў: „пачакайце, дайце нам толькі вярнуць цара ў Расеі, і тады мы вам Беларусам, Украінцам, Літоўцам, Жыдам, Палякам і другім, пакажама нацыянальную аўтаномію“!..

Характэрна, што пад відам „эмігрантаў“ на сабраньні выступалі пераважна польскія „обывателі“ расейскае нацыянальнасьці. Вось табе і „обывателі“!..

**Аляксандра Чырвоны і Паўля Нябелы.**

# Карэспандэнцыі.

## Пэпэзсаў праганяюць.

(Слонімшчына).

Усім ужо ведама, што пэпэзсы накінуліся на Заходнюю Беларусь, баламуцячы беларускіх сялян, бо хочуць атрымаць пасольскія мандаты. — Так і ў нас.—Уеліся яны ў вёсцы Лабзово, Дзерачынскай гм. і абяцалі залатыя горы. Некалькі сялян навет запісаліся ў іх камітэт. Але сьвядомыя беларусы раз'ясьнілі сялянам, — што гэта за злыдні—гэтыя пэпэзсы, што пэпэзсы хочуць абаламуціць беларускіх сялян, каб дастаць нашымі галасамі пасольскія мандаты, і тады ў Сойме з большым пасьпехам прадаваць у хаўрусе з капіталістамі і абшарнікамі нашыя інтэрэсы, каб яшчэ болей нас закабаліць.—Як даведаліся сяляне, што мы маем сваю Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая шчыра і няўхільна бароніць нашы сацыяльныя і нацыянальныя інтэрэсы, што трэба з Грамадою ісьці,—за яе аддаць свае галасы пры выбарах у Сойм, то выпісалі сваю газэту „Беларус. Ніву“, каб пераканацца, ці праўда гэта, і, пераканаўшыся, мятлою пагналі пэпэзсаў з вёскі.— Пасьля пэпэзсы некалькі разоў сунулі свой нос у вёску, але—адно—толькі пабрэшуць на вецер і пойдуць ні з чым,—ніхто ім ня верыць і ня слухае іх.

— Браточкі беларусы, ня толькі пэпэзсам, але ніякім польскім партыям ня верце, бо яны ня толькі не жадаюць вам дабра, але — гэта яны хочуць ад нашага імя прайсьці ў Сойм і там нібы са згоды нашай прадаваць, як і цяпер прадаюць, нашыя жыцьцевыя і кроўныя інтэрэсы, — як нацыянальныя, так і сацыяльныя.

Мы маем сваю Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая шчыра, рашуча і няўхільна бароніць і змагаецца за нашыя жыцьцевыя і нтэрэсы.—Яе мы слухайма, за яе-ж і падайма галасы пры выбарах!

**Беларус.**

## Беларускай школы не даюць.

(Слонімшчына).

Пры падачы дэклярацыяў мы думалі мець дзьве школы—адну ў Востраве, а другую ў хутарох Вострава.

Цяпер ужо школьны інспэктар са Слоніма прыслаў паперу, што Беластоцкі куратар не згаджаецца на беларускую школу ў хутарох.

В. Клімовічы атрымала паперу, што беларускай школы там ня будзе, бо частка людзей „зракласяˮ беларускай школы ў часе „badania“ 22/V 25 г.

У Вострава яшчэ ня прыслалі ніякай паперкі.—Можа хоць Вострава будзе мець беларускую школу?—Напэўна—не!—Хіба гэта быў-бы „cud na ziemich Białoruskich“.

**Адзін з пакрыўджаных.**

## Пэпэзсы—шпіёны.

(В. Краснае, Беліц. гм. Лідзкага пав.).

1 сакавіка прыехалі да нас пэпэзсы, каб арганізаваць свой камітэт. Зайшлі да солтыса, каб ён склікаў сход, дзе б пэпэзсы агітавалі сярод сялян.

Адзін з пэпэзсаў заўважыў у солтыса на стале „Беларускую Ніву“, узяў, зьмяў і кінуў, кажучы гэта „g..no“—вось купляйце нашае „Красное Знамя“.

Сяляне ані газэты ня куплялі, ані на сход не пайшлі—дый солтыс ня склікаў яго.—Сяляне і слухаць іх не хацелі.

Тады пэпэзсы, бачачы што тут „піўкі не піваліўкі“, папрасілі падводы, каб іх адвясьці ў Бяліцу.—Солтыс ня даў. Тады за грошы нанялі і паехалі.

Адяжджаючы, адзін з пэпэзсаў назваў сябе агэнтам тайнай палітычнай паліцыі (шпіёнам).

Бачыце!—Сьцеражыцеся, людцы, іх, а то зараз у вастрог запакуюць.

**Селянін.**

## Асаблівы „вучыцель“.

(В. Ліхачэўцы, Чарнехаўскай гм., Баранавіцк. п.).

„Вучыцель“ наш—Владыслаў Урбановіч, відаць, не „по назначению“ трапіў на гэтую пасаду.

Вось два факты, як і чым ён займаецца. — На Каляды загадаў ён дзецям прынясьці або каўбасы, або сала. Бацькі, даючы, думалі: ці-ж гэта ўжо „пановаму“? Прыйшлі паглядзець, як будуць выглядаць каўбасы на ёлцы.—Прышлі, аж ёлка пусьцюсенькая,—толькі дзе-ні-дзе чырвоная паперка. А каўбасамі і салам вучыцель гучна разгуляўся са сваей „канфэрэнцыяй“, што тады ў яго сабралася.

Як прыцямнее, так ходзіць ён з рэвольвэрам па-падвокнамі сялянскіх хатаў, і прыслухоўваецца.—Як заўважыць у каго госьця, ды бутэльку на стале, то ўваходзіць у хату, пагражаючы рэвольвэрам, крычыць, што ён шпіён і ўсё можа „зрабіць“.—Гэтак покуль не напояць, а нап'ецца, то ідзе далей і там тое самае.

Ці можа вучыць гэтакі „вучыцель“ дзяцей?

**Гучны.**

## Вось табе і „ацец духоўны“.

(С. Чарневічы, Дзісненскага пав.).

У старане ад вялікіх шляхаў, сярод маляўнічай мясцовасьці, раскінулася нашае сяло. Жыхары нашы—усе беларусы. Праўда, сьвету ў нас малавата. Німа роднай школы, німа сьвядомага інтэлігентнага чалавека, які растлумачыў-бы нам аб усім, што робіцца на сьвеце. Але ўсё-ж такі чуем аб тым, што беларус прачнуўся, што негдзе будуецца новае жыцьцё беларускае.

Прачулі таксама, што можна і школу родную адчыніць. Але, чк зрабіць, ня ведаем Вось і надумаліcь пайці на раду да свайго „айца духоўнага“ Выдрыцкага. Думалі: паходзіць з Горадзеншчыны, значыць беларус, — скажа, як тэхнічна ўладзіць гэту справу.

Аж, праўда, сказаў: „беларускай школы і мовы я цярпець не магу“!

Зубкі зразу і паказаў, хоць і ў нашай скурцы. Беларус, але цераз „ѣ“.

Сьціснулі зубы і папляліся да хаты. Будзем прынамсі ведаць, каго гадуем, хто нас ня любіць.

А вось ад грошыкаў нашых дык „ацец“ не адмаўляецца. Калі 1 сакавіка памёрла ў в. Мазурове адна 75 гадовая бабулька і патрэбна было яе пахаваць, то ацец Выдрыцкі патрэбаваў наўперад грошы. Акрамя таго, казаў, каб заплацілі яшчэ і за хаўтуры, якія адбыліся 2 гады назад у таго-ж самага гаспадара!

Гэта дык помніць, а забыўся, чым хлебам гадуецца.

**Беларус.**

# З Радавае Беларусі.

## Беларускі дзяржаўны музэй.

### Экспанаты з Калінiншчыны.

У апошнія часы ў Беларускі Дзяржаўны Музэй прывезена з Калінінскай акругі значная калекцыя старажытнай зброі: панцыры, шлемы, сякеры, кальчугі і інш.

Апрача гэтага, адтуль-жа набыта 10 каменных сякераў і малаткоў і 15 старажытных партрэтаў. Надзвычайна цікавыя і каштоўныя срэбныя ключы г. Чэрыкава 1786 г. і мядзяная грыўна 1786 г. (квадратовая).

### Слуцкія старажытныя помнікі.

З г. Слуцку прывезена рукапіснае эвангэльле, пісанае слуцкім князем Юрыем Алелько ў 1582 г. Акрамя гэтага, у музэі ёсьць абкладка ад эвангэльля — старажытнай работы 1584 г., якая знойдзена ў Менскім жаночым манастыры. Гэта абкладка будзе зьяднана з эвангэльлем і будзе лічыцца старажытным помнікам адных часоў. Далей, ідзе рыза, шытая золатам на срэбным фоне, якая вышыта дачкой князя Алелько, Сафіяй; драўляны архімандрычы „посах“, партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў і 3 карціны, намалёваныя вядомым мастаком Катарбінскім.

### Археолёгічныя помнікі.

За апошнія часы археолёгічны аддзел музэю значна павялічыўся.

Акрамя рэчаў, знойдзеных пры раскопах Сэрбава каля Менску, ім-жа перададзены ў музэй рэчы ад раскопак у Н.-Быхаве і на р. Ухлесьці (Магілёўск. акр.).

### Экспанаты са Смаленшчыны.

У Каўшароўскім гарадзішчы, Смаленскай губ. (на р. Сожы), знойдзена шмат археолёгічных экспанатаў, якія перададзены ў БДМ.

### Падарунак Музэю ад праф. Д. Запольскага.

Праф. БДУ Доўнар-Запольскі перадаў БДМ 166 срэбных капеек часоў Міхаіла Фёдаравіча і Пятра I; сярод манэт ёсьць некалькі часоў Івана IV

### Арабская манэта.

БДМ набыў срэбны арабскі дыргэм—„Бувэйхідаў“ з часоў 997—1021 г. г. хрысьціянскай эры. Гэта манэта знойдзена ў Менску на гародзе па Мацьвееўскай вул.

### Помнікі з Ляданскага манастыра.

З бышага Ляданскага манастыра (Меншчына) ў музэй паступіла вуніяцкае царкоўнае ўбраньне, старажытныя дакумэнты і кнігі.

## На прадвесьні.

Каб хаця вось, Божа,
Даў скарэй вясну,
Ды каб разбудзіў нам
Траўку ада сну!

За зіму-ж капуста
Кішкі пераесьць;
На яе як глянеш,
Трасесься ўвесь.

А як да капусты
Жменю крапівы,
Дык зьядуць і дзеці,
Зьесьць і дзед сівы.

За крапіўкай пойдзе
Лебяда і мак,
Хоць, як я знаходжу,
Не такі ў іх смак!

І асот таксама
Зьесца неўзначай.
Ну, а як нарвеш дзе
Шчаўя—выбачай

І вярні з дарогі
Асот, лебяда:
Нам цяпер са стравай
Ужо не бяда!

А да хлеба сушым
Дзяцельніку мех.
Можа вам, паночкі,
З гэтага і сьмех?

Вы-бы не сьмяяліcь
Над бядой чужой,
Каб былі знаёмы
З нашаю мяжой,

З нашай хаткай цёмнай,
Дзе такая гразь,
Як адчыніш дзьверы,
Хоць і ня улазь!

Ох, ці-ж мы ня людзі?
Ці-ж ня знаем мы,
Што ляпей палацы
За нашы ламы?

Што смашней хлеб белы,
Цукер, парасё
За асот, мякінку
Ды тут і ўсё?

Вер-жа, брат сярмяжнік,
Што настане час,
Што заранка ўзойдзе
І для бедных нас!

**Пётра Лішні.**

Выдавец: Базыль Юшка.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.